# СВАБОДНАЕ СЛОВА

матэрыялы друкуюцца ў скарачэнні

СЬНЕЖАНЬ № 110

У нумары выкарыстаны перадрукоўкі з рэспубліканскіх і мясцовых зарэгістраваных газэтаў


## ЧЕТВЕРТЬ БЮДЖЕТА



БЕЛАПАН

По официальным данным, из 87,7 миллиарда рублей балансовой прибыли, полученной промышленными предприятиями Витебской области за январь — сентябрь 2000 года, более 26 процентов приходится на предприятия негосударственных форм собственности.

За тот же период 25,4 процента промышленных предприятий региона допустили убытки в сумме свыше 13 миллиардов рублей. Количество убыточных предприятий по сравнению с тем же периодом прошлого года увеличилось в 2,7 раза; общий уровень рентабельности снизился более чем на 3 процента.

Впрочем, вся вышеозначенная прибыль сводится на нет разницей между кредиторской и дебиторской задолженностью, составившей 84,7 миллиарда рублей. 248,6 миллиарда рублей, или более 73 процентов суммы кредиторской задолженности, составили неплатежи за энергоресурсы.

*Леонид* **СИМОНОВ**

## НАС УЖЕ МЕНЬШЕ ДЕСЯТИ МИЛЛИОНОВ

отдел информации «БДГ»

О том, что Беларусь страдает болезнью большинства европейских стран — преобладанием смертности над рождаемостью — известно уже давно. Власти бьют тревогу и пытаются стимулировать рождаемость, разрабатывая законы о демографической безопасности. Однако пока никакого эффекта это не дает.

По данным Минстата, численность населения нашей страны на 1 октября текущего года составила 9997,7 тыс. человек.

Сокращение численности населения обусловлено превышением на 30,4 тыс. числа умерших над родившимися при одновременном уменьшении миграционного прироста. Наибольшее естественное сокращение численности населения было отмечено в Витебской и Могилевской областях.

С начала века и по 90-е годы население Беларуси в ее современных границах постоянно увеличивалось, а к 1995 году достигло 10,345 млн. человек. Спад был только в период Великой Отечественной войны. К 70-м годам довоенную численность удалось восстановить. Теперь мы снова «в минусе».

## ЯГОНЫ СТРАХ

Свабода

Павал КРЫЛЬСКІ



**У мінулы аўторак стала вядомая прычына гучнай адстаўкі шэрагу кіраўнікоў сілавых ведамстваў і пракуратуры. Гэтая прычына – страх.**

Страх Аляксандра Лукашэнкі, які раптам прыйшоў з разуменнем, што прыйдзецца адказваць за ўсё, што яшчэ крок і стануць яўнымі сапраўдныя заказчыкі і выканаўцы, што ўжо няможна як раней давяраць «органам» і адданым, як здавалася, людзям.

Паўсюль мроіцца здрада і ворагі, ад якіх нідзе няма спакою ні ў Драздах, ні ў кабінеце на Карламаркса38. Хочацца схавацца ў шафу і пераседзець у душнай цёплай цемры.

АТН паведаміла ў сваім рэпартажы 28 лістапада: *«Произведенные президентом перестановки оказались ходом обдуманных и взвешенных решений. Неожиданные, на первый взгляд, отставки и назначения имели целью только одно: укрепление института государственной власти перед лицом вызовов и угроз с явным изменением внешнеполитической ситуации вокруг Беларуси и попытками дестабилизировать обстановку внутри страны».*

Гэтымі «вызовамі и угрозамі» сталіся насамрэч не толькі апазіцыя, NATO і незалежная прэса, але АБСЕ, КДБ, пракуратура і нават ягоная адміністрацыя.

Паводле А.Лукашэнкі: *«Оппозиционная пресса, средства массовой информации, в том числе и фракция, в нарушение закона просто стали попирать нормы морали. Соответствующие структуры у власти молчаливо за этим наблюдали со стороны. Администрация президента, Прокуратура самоустранились от этих проблем. Многие посматривают из-за угла государственные чиновники. И у вас есть такие...»* Незразумела, якую фракцыю мае на ўвазе Лукашэнка, але кіраўніку адміністрацыі Міхаілу Мясніковічу мусіць трэба рыхтавацца ўслед за Уладзімірам Мацкевічам і Алегам Бажэлкам. АБСЕ проста прапанавана супакоіцца, бо спадзеў на прызнанне выбараў у «палатку» рассеяўся, як дым.

З выказванняў А.Лукашэнкі яскрава відаць, што праблема зніклых не дае яму спакою, проста выпальвае мозг :*«Теперь о расследовании уголовных дел, получивших общественный резонанс. Оппозиционные средства массовой информации развернули общественное мнение в нужное для себя направление от реальной сути и искажали ход следствия, вмешиваясь в него, порой не без помощи следователей, которые вбрасывали в СМИ так называемые полусомнительные факты, организованные утечки. Вы это, что, не видели? Вы не читали оппозиционную прессу?»*

І далей, ужо не стрымаўшыся, Лукашэнка раптам прымае ўсю віну на сябе, чаго не здаралася на нашай памяці ніколі: *«Все братские средства массовой информации в унисон с западными доброжелателями пытаются обвинить меня, президента страны, в исчезновении людей, известных людей. Последнее исчезновение — это Завадский, Винникова, Батурин. И трое раньше. Они кричат в один голос: Лукашенко виноват! Это демократы. Это демократы, которые оделись в демократическую тогу. Они уже меня осудили без суда. Меня, главу государства»*

Незразумела, прычым тут былая банкірка Тамара Віннікава і былы міліцыянт Алег Батурын? Можа і для іх рыхтаваўся лёс аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага? Для Лукашэнкі недапушчальна, што яго нехта можа судзіць, хаця гэта пакуль толькі плод распаленай фантазіі, але ён пра гэта ўжо думае. Мусіць ёсць падстава. *«Так вот, чтобы не мучились больше журналисты по поводу вот этих всех громких дел и*

заканчэнне на старонцы 2 ▶

# ЯГОНЫ СТРАХ

заканчэнне. пачатак шукай на старонцы 1

*преступлений, я хочу заявить следующее: да, я виноват, что это произошло в стране. Я. Потому что я президент. Так что не ищите виновных. И поэтому я несу за это и другое ответственность в полном объеме. Поэтому еще раз подчеркиваю: не пытайтесь найти виновных — виноват только я. Но судить меня будут только тогда, те, которые на это замахнулись, когда мне в доверии откажет народ, и когда они захватят власть. Тогда они все без суда и следствия (и это вы хорошо знаете) посадят на кол под одобрительные вопли западных наставников демократии. Сидеть будет некому. Поэтому я еще раз подчеркиваю: я виноват, и я несу ответственность за все, что происходит в нашем государстве».*

Не дае спакою яму і тое, што здарылася ў Югаславіі. Ён адчуў сябе на месцы Слабадана Мілошавіча і спрабуе зрабіць высновы з гэтага, супакойваючы ў першую чаргу сябе байкамі пра магутнасць беларускай арміі: *«Мы подстегнули Вооруженные Силы. Мы привели их в идеальное состояние то, что там есть. Сегодня боеготова вся бронетехника, самолеты, которые сегодня в ремонте, в течение первого квартала будут возвращены в части в боеспособном состоянии. Сегодня выделены огромные средства для того, чтобы обеспечить прежде всего противовоздушную оборону и Военно-воздушные силы.*

*По опыту Югославии вы это знаете. И вы знаете, что я в Югославию посылал того же Шеймана, сына своего и группу специалистов, может, кто-то из КГБ был, для того, чтобы изучить, что там происходило. Мы не зря туда влезли и изучали каждый метр и каждый сантиметр войны в Югославии. Я Милошевичу начертил схему, по которой будут его молотить. Один к одному, все, что я ему говорил, произошло, и по выборам в том числе».*

Але, як відаць, парады Лукашэнкі ці не спрацавалі, ці трапілі на неўрадлівую глебу: Мілошавіч ляснуў. Выйсце мусіць быць знойдзенае ў ператасоўцы «надзейных кадраў» і наданні новых паўнамоцтваў пракуратуры: *«Прокуратура страны будет усилена в ближайшее время неимоверно. Будет реформирован Госсекретариат, аппарат секретариата государственного. Будет выведен отсюда Комитет по борьбе с коррупцией в высших эшелонах власти и передан в Прокуратуру страны. Здесь проведена другая реорганизация этого аппарата. Та составляющая силовая, которая присутствовала в нем, будет убрана, он станет чисто аналитическим мозговым центром, обеспечивающим безопасность нашей страны и органа, который будет вносить президенту для принятия решения. Все это перейдет в МВД, КГБ и Прокуратуру по назначению. Мы будем действовать еще жестче, чем прежде».*

Сапраўды, паставіўшы надзейных людзей на чале сілавых ведамстваў, Лукашэнка паспрабуе ўтрымаць сітуацыю. Але, як паказвае практыка, страхам і рэпрэсіямі доўга не пакіруеш. Пра слабасць сістэмы сведчыць той факт, што ўсе адстаўкі і шум сталіся вынікам толькі адной «уцечкі» інфармацыі. Паляцелі галовы начальнікаў, але засталося мноства людзей, якія ўсё ведаюць. Сістэма ўжо ніколі не будзе здавацца маналітнай і будзе выклікаць страх найперш у Лукашэнкі. Новыя людзі, якіх паставіў Лукашэнка, па нашай інфармацыі, выклікаюць амаль непрыкрытую непрыязь у большасці супрацоўнікаў давераных ім ведамстваў. Лукашэнка павінен са страхам чакаць новых падзеяў.



# ПУЦІН ВУЧЫЦЬ БЕЛАРУСЬ, ЯК ПАЗБАВІЦЦА СУВЕРЭНІТЭТУ

Свабода

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Учора падчас саміта СНД, што праходзіць цяпер у Мінску, прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін заявіў: «Мы ідзем на тое, каб органы Саюзнай дзяржавы мелі паўнамоцтвы, гэта патрабуе адмовы ад часткі суверэнітэту. Гэта вельмі тонкі працэс».**

Заява расійскага кіраўніка прагучала поўным дысанансам звычайным ужо прамовам А.Лукашэнкі, у якіх ён кляўся чым толькі можа, што ні кавалка суверэнітэту Беларусі нікому не аддасць. Відавочна, што У.Пуціну не трэба адмаўляцца ад суверэнітэту, таму ягонае выказванне датычыць выключна Беларусі. І не трэба мець ніякіх ілюзіяў на гэты конт. Як кажуць у бандыцкіх колах, *трэба дзяліцца.* І пасля забіраюць усё.

У якасці кампенсацыі за «кавалак суверэнітэту» Беларусі быў прапанаваны новы крэдыт у памеры 200 мільёнаў долараў. Пра гэта журналістам распавёў Аляксандр Лукашэнка. Пасля заканчэння трэцяга паседжання Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі ён паведаміў, што нібыта У.Пуцін «станоўча» ставіцца да выдзялення стабілізацыйнага крэдыту. Беларускі кіраўнік дадаў, што, на ягоную думку, «гэта вельмі маленькі для Расіі крэдыт». Як вялікую эканамічную перавагу А.Лукашэнка выдзеліў той факт, што Беларусь прывязала сваю валюту не да долара — «як іншыя краіны», а да расійскага рубля. Ён таксама заявіў, што «Расія выконвае для Беларусі такую ж роль, як МВФ для Расіі». Што замінала Беларусі напрамкі скантактавацца з Міжнародным валютным фондам, беларускі кіраўнік не ўдакладніў.

Тым часам, саміт краінаў СНД ідзе сваім ходам. У Мінск прыляцелі 11 з 12 прэзідэнтаў краінаў СНД. Прэзідэнт Туркменістана Сапармурат «Туркменбашы» Ніязаў палічыў, што на саміце не будзе адбывацца нічога цікавага для ягонай краіны — і не прыехаў.

Для дастаўкі вельмі важных персонаў у Мінск было выкарыстана 26 самалётаў. Сталічная міліцыя пераведзеная на ўзмоцнены рэжым працы. Рух транспарту, у тым ліку і грамадскага, па цэнтральных вуліцах горада істотна абмежаваны. На VIP-шляху ад граніцы Мінска да аэрапорта «Мінск-2» былі пастаўленыя адмысловыя палаткі, у якіх ахоўнікі парадку хаваюцца ад холаду.

Учора зранку, калі Аляксандр Лукашэнка сустракаўся з Уладзімірам Пуціным самнасам, то ледзьве не падарункам вышэйшых сілаў вытлумачыў своечасовы прылёт высокага расійскага госця, нягледзячы на моцны туман. «Гэта добры знак, — заявіў А.Лукашэнка, — гэтая зямля заўсёды чакае расіянаў, яны тут не чужыя». Уладзімір Пуцін, аднак, перапыніў аб'яднаўчыя абдымкі беларускага калегі і заявіў, што не варта праяўляць залішнюю спешку, штучна паскараючы інтэграцыю. Сустрэча двух кіраўнікоў замест гадзіны працягнулася дзве з паловай.

Падчас паседжання дзяржсавета дзвюх дзяржаваў Уладзімір Пуцін і Аляксандр Лукашэнка падпісалі дамову аб пачатку хаджэння з 1 студзеня 2005 года на тэрыторыі Беларусі расійскага рубля і стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра. Паводле дакумента, Расія абавязваецца у 2000-2004 годзе «аказаць падтрымку ў стабілізацыі плацежнага балансу Рэспублікі Беларусь і беларускага рубля» — на падставе асобных пагадненняў. Дзеянне дамовы пачнецца пасля яе ратыфікацыі.

Як паведаміла расійская тэлекампанія НТВ, таксама падрыхтаванае да ратыфікацыі пагадненне аб часовым прабыванні расійскіх вайсковых фарміраванняў на тэрыторыі Беларусі. У ім ідзе гаворка пра выкарыстанне расійскай радыёлакацыйнай станцыі ў Баранавічах, а таксама рэгламентуецца ўтрыманне радыёстанцыі для баявога кіравання караблямі Ваенна-Марскога флоту Расіі, якая таксама месціцца на тэрыторыі Беларусі.

Паводле некаторых падлікаў, правядзенне саміта каштавала больш за 100 тысяч долараў. Выканаўчы камітэт СНД абяцаў кампенсаваць Беларусі 44 тысячы долараў.

Уладзімір КУЛАЖАНКА
доктар эканамічны навук,
прафесар

Народная Воля

# ПРЫПЛЫЛІ...

## У Расіі інфляцыя — 14 працэнтаў, у Беларусі — звыш 78 працэнтаў

Апраўдваючы сваю бесперспектыўную палітыку, А.Лукашэнка не адзін раз сцвярджаў, што эканоміка Беларусі з'яўляецца самай устойлівай і дынамічнай сярод краін СНД. Вось на мінулым тыдні, выступаючы на адкрыцці так званай Палаты прадстаўнікоў, ён заявіў: «Тое, што зроблена, усяляе ўпэўненасць, дае магчымасць абгрунтавана ставіць новыя задачы».

Прабачце, але гэта пустая балбатня. Пра якую «ўстойлівую і дынамічную» эканоміку можна гаварыць, калі жыццёвы ўзровень насельніцтва не расце, а зніжаецца, калі даходы большай паловы працуючых ніжэй рысы мінімальнага спажывецкага бюджэту? Аб якой стабільнасці эканомікі можна гаварыць, калі за 10 месяцаў бягучага года (студзень–кастрычнік) спажывецкія цэны выраслі на 87,4 працэнта?!

Адмоўныя змены ў жыццёвым узроўні такія, што нельга паверыць у абяцанні АЛукашэнкі павысіць сярэднюю заработную плату да сярэдзіны наступнага года да 100 долараў. Ды і сам ён, думаецца, не верыць у гэта, бо называе будучыя заробкі ўжо памерам у 100—110 тысяч рублёў, што ў доларавым эквіваленце не зможа перавысіць заробкі нават сённяшняга дня. І гэта зразумела, бо зарплата ў рублях недзе праз 7–8 месяцаў, каб быць роўнай 100 доларам, павінна павялічыцца не да 100–110 тысяч рублеў, а мінімум да 160 тысяч рублёў.

Праўда, намаганнямі Лукашэнкі Беларусь усё ж выйшла ў лідэры сярод краін СНД. Толькі гэтае лідэрства, на жаль, са знакам мінус. Як абвешчана міждзяржаўным статыстычным камітэтам СНД, за тры кварталы бягучага года (студзень–верасень) Беларусь выйшла на першае месца сярод краін СНД па ўзроўню інфляцыі. На спажывецкім рынку ён дасягнуў аж 78,1 працэнта. Пра гэтае першынства АЛукашэнка чамусьці маўчыць.

«Поспехі» Беларусі ў раскручванні інфляцыі такія значныя, што ў гэтым паказчыку яна адарвалася ад іншых краін не на працэнты, аў некалькі разоў. Так, статысты СНД лічаць высокай інфляцыю ў Таджыкістане (33,1 %) і ва Украіне (21,6%). Але ж гэта ў 2,5 раза ніжэй, чым у Беларусі.

Асабліва відавочна Беларусь абагнала працэсы інфляцыі ў Расіі, што мае ўжо сёння адчувальныя наступствы. У Расіі агульны паказчык інфляцыі за аналізуемы перыяд склаў толькі 14,1 працэнта, а на харчовыя тавары яшчэ менш — 11,6 працэнта. Менавіта гэтая акалічнасць прывяла да таго, што харчовыя тавары — масла, малако, мясныя прадукты, алей, піва — хлынулі з Расіі ў Беларусь. Асабліва ва ўсходнія вобласці краіны — Магілёўскую, Віцебскую, Гомельскую. Ды і ў Мінску расійскіх харчовых тавараў ужо досыць. А колькі год таму ўсё было наадварот. З аднаго боку, для беларускага спажыўца гэта нядрэнна — паступаюць дэфіцытныя тавары, а з другога — наплыў расійскіх прадукгаў стварае жорсткую канкурэнцыю для мясцовых вытворцаў. Як бачым, умовы так званай інтэграцыі змяніліся, бо расійскія тавары ў самой Расіі, апроч гарэлкі ды хлеба, значна таннейшыя.

Па ўсім відаць, што знізіць цэны на асноўныя харчовыя тавары ні сёлета, ні да вясны будзе немагчыма. Так, за 10 месяцаў бягучага года пагалоўе буйной рагатай жывёлы скарацілася амаль на 200 тысяч галоў. Нарыхтоўкі мяса зменшыліся на 11,7 працэнта, надоі малака зляцелі на 8 працэнтаў. Вытворчыя магчымасці мясакамбінатаў у асенні перыяд загружаны толькі на 35,5 працэнтаў. І гэта нягледзячы на тое, што ў гэтым годзе калгасы і саўгасы атрымалі велізарнуіо дапамогу ад дзяржавы праз усе формы фінансавання і льготнага крэдытавання — аж 388 мільярдаў рублёў.

Вельмі высокія тэмпы інфляцыі ў Беларусі ў параўнанні з іншымі краінамі. Так, у Грузіі цэны за аналізуемы час выраслі толькі на 2,3 працэнта, у Кіргізіі, Казахстане — менш чым на 6 працэнтаў, а ў Арменіі спажывецкія цэны нават знізіліся на 2,8 працэнта, а прадукты харчавання патаннелі яшчэ болей — на 4,5 працэнта. А ў гэты час нашых спажыуцоў, калі яны заходзяць у крамы, цэны малочных прадуктаў, мясных ды рыбных проста палохаюць. Тым не менш яны працягваюць расці. Па-ранейшаму адносна танная толькі гарэлка, і то далёка не ўсім па кішэні.

Непераадольная інфляцыя ўяўляе сёння небяспеку не толькі для спажыўцоў, але і для ўсёй народнай гаспадаркі. Агульнавядома, што інфляцыя абмяжоўвае свабоду дзеянняў суб'ектаў гаспадарання, вядзе да праядання асноўных і абаротных фондаў, рэзка скарачае інвестыцыі, а таму і перашкаджае эканамічнаму росту.

Статыстычныя вынікі каманднай эканомікі пры непераадольнай інфляцыі А.Лукашэнка са сваей камандай увесь час прадстаўляе як перавагу над рыначнай сістэмай. Калі былі непазбежныя цяжкасці пры пераходзе да рынку ў суседніх краінах, спасылаліся на вопыт Літвы, Латвіі і нават Расіі. Зараз у сувязі са станоўчымі зменамі спасылкі на названыя краіны спыніліся, бо людзі ведаюць, што гэта непрыкрытая хлусня. Але была адна краіна, эканамічны стан якой эксплуатаваўся ўвесь час пры эканамічнай прапагандзе. Гэта Украіна. Але ў гэтым годзе, пасля таго як была забалаціравана камуністычная Рада, якая стрымлівала рэформы ў краіне і цягнула Ўкраіну назад, эканоміка паўднёвай суседкі нарэшце ўзяла высокі старт. Як паведамляе ўкраінская газета «Кіеўскі кур'ер», у гэтым годзе прырост ВУП прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі складае мінімум 5 працэнтаў, а інвестыцыі знаходзяцца ў стане небывалага буму. Зараз ківаць на Украіну як на адмоўны вопыт рыначнай эканомікі нельга.

Што і казаць, бесперспектыўная эканамічная палітыка АЛукашэнкі. Ён гаворыць пра нейкае мізэрнае павышэнне зарплаты бюджэтнікам, а ў гэты час інфляцыя катастрафічна зніжае рэальны ўзровень жыцця. Дарэчы, з пачатку года рублёвая маса ў абарачэнні амаль падвоілася. І папулісцкая эканамічная палітыка не дае падставы спадзявацца, што эмісія грошай будзе спынена.

Не, ні Лукашэнка, ні яго памагатыя не выратуюць Беларусь. Да ўлады павінны прыйсці іншыя людзі, якія менш будуць балбатаць, а больш разумна, граматна працаваць.

# НА ЧТО ТРАТЯТ НАШИ ДЕНЬГИ?

Руководители страны убеждают, что они постоянно заботятся об улучшении жизни граждан, что для них ничего нет важнее, чем это. Тут же ссылаются на увеличение зарплаты, пенсий...

Это на словах. А как на самом деле? Давайте переключим свое внимание с их пылких речей на обычную житейскую арифметику, а точнее, на государственный бюджет. Давайте посмотрим, как же власть распоряжается государственными деньгами, на что их тратит: на улучшение нашей жизни или на что-то другое?

Итак, республиканский бюджет на 2001 год по расходам обозначен суммой 3.471.000.788 тысяч рублей. Прежде чем знакомиться со статьями расходов, давайте задумаемся, а откуда государство имеет столько денег? Конечно же, это наши с вами деньги. Их взяло государство в виде налогов и отчислений из доходов трудовых коллективов, в которых мы работаем. Поэтому у нас и малые зарплаты, что власти почти все выгребают в бюджет. Так, в названном документе сказано, что текущие налоговые доходы составят 2.468.616.860 тысяч рублей. Из них налоги на доходы и прибыль — 602.846.113 тысяч рублей, налоги с фонда заработной платы — 125.537.364 тысяч рублей.

А теперь посмотрим, на что власти собираются потратить эти огромные деньги.

На национальную оборону выделено 152.213.855 тысяч рублей, на правоохранительную деятельность и обеспечение безопасности — 280.590.758 тысяч рублей, на судебную власть — 13.734.417 тысяч рублей. Сложим и получим 446.539.030 тысяч рублей. Вот такая сумма выделяется на содержание силовых структур.

На промышленность, энергетику и строительный комплекс предусмотрено 35.416.600 тысяч рублей, на транспорт, дорожное хозяйство и связь — 4.543.755 тысяч. Давайте задумаемся над двумя цифрами:

***на силовые ведомства выделено — 446.539.030 тысяч рублей;***
***на промышленность, энергетику и строительный комплекс — 35.416.600 тысяч рублей.***

То есть на развитие промышленности, энергетики и строительного комплекса выделяется денег в 12 раз меньше, чем на силовые ведомства. Правильно ли это? Разве жизнь граждан станет лучше оттого, что государство закупит еще массу танков и резиновых дубинок? Думается, нам жилось бы лучше, если бы больше строилось квартир, модернизировалось бы наше производство. Но власти, видимо, придерживаются иного мнения. Для них, стало быть, важнее закупить побольше резиновых дубинок и металлических щитков для разгона демонстраций.

Нам часто говорят, что мы не оплачиваем всю стоимость коммунальных услуг, что государство вынуждено за нас доплачивать и за отопление, и за подогрев воды и т.д. И под шумок этих слов постоянно взвинчиваются цены за коммунальные услуга. А сколько оно само выделяет на жилищно-коммунальное хозяйство? Да просто смешную долю, всего 900.988 тысяч рублей. Давайте сравним эти две цифры и задумаемся:

***на силовые структуры выделено — 446.539.030 тысяч рублей;***
***на жилищно-коммунальное хозяйство — 900.988 тысяч рублей.***

Да перебросили б немножко денег от силовиков на коммуналку и с пенсионеров можно было бы вообще не брать плату за ряд коммунальных услуг. Ан нет, дерут с нищих пожилых людей последние копейки. При этом еще разыгрывают спектакль о заботе — принимают решения о мелких льготах на оплату. И многие люди клюют на эту дешевую наживку.

Листаем приложение к Закону о бюджете «Ведомственная структура расходов республиканского бюджета на 2001 год». Правда, нам удалось раздобыть лишь проект документа, который выносился в октябре на рассмотрение во втором чтении в так называемую Палату представителей. Но информированные источники утверждают, что существенных изменений он уже не претерпел. Здесь нельзя не обратить внимания на строку «Управление делами президента Республики Беларусь — 42.489.604,7». Это столько тысяч рублей выделено на названное президентское подразделение. Замечу, что на культуру, Академию наук денег отпущено значительно меньше. Впрочем, задумайтесь сами над цифрами.

***Выделено:***
***Управлению делами президента — 42.489.604 т. рублей;***
***Национальной академии наук — 3.687.760 т. рублей;***
***Культуре, искусству, кинематографии — 20.363.459 т. рублей;***
***промышленности, энергетике, строительному комплексу — 35.416.600 т. рублей.***

Просто не верится, не описка ли какая в документе. Ведь управление делами президента получает намного больше денег, чем вся промышленность, энергетика и строительный комплекс.

А есть еще служба безопасности президента. Ей дают 4.369.759 тысяч рублей. Это больше, чем Национальной академии наук. Выходит, труд академиков оплачивается ниже, чем труд президентских охранников. А ведь всем известно, что прогресс страны в большей степени зависит именно от достижений науки и совсем не зависит от тренировок охранников.

***Сравним:***
***Служба безопасности президента — 4.369.759 тысяч рублей;***
***малый бизнес и предпринимательство — 972.500 тысяч рублей.***

Не дороговато ли обходится одна охрана президента?

Уже набили оскомину утверждения властей о том, что союз Беларуси с Россией поможет улучшить благосостояние белорусов. Сладкими речами на эту тему кормят более пяти лет. А где улучшение? Его и не видно. Зато содержание чиновников, которые постоянно по телевизору ратуют за союз, обходится народу недешево. На содержание исполнительного комитета союза Беларуси и России, отчисления в бюджет этого союза отпущено 38.294.000 тысячи рублей. Не забыли, сколько выделено на жилищно-коммунальное хозяйство? Напоминаю, 900.988 тысяч рублей. Сравним эти цифры.

***Выделено:***
***в бюджет союза с Россией — 38.294.000 тысяч рублей;***
***в жилищно-коммунальное хозяйство — 900.988 тысяч рублей;***
***Национальной академии — 3.687.760 тысяч рублей.***

Так что чиновники будут еще громче кричать о необходимости союза с Россией. А почему бы и не кричать, если на этот крик выделяются астрономические суммы, или где-то в 40 раз больше, чем на все жилищно-коммунальное хозяйство страны. Откуда же при такой ситуации батареи в домах будут теплыми?! Понятно, что и цены на коммунальные услуги будут расти и расти, ибо деньги, которые могли бы быть направлены в коммуналку, пошли в кормушку для чиновников, ратующих за союз с Россией и за СНГ...

Много интересного содержится в Законе о бюджете и приложениях к нему. Думается, профсоюзам не мешало бы провести рабочие собрания, на которых обстоятельно рассмотреть бюджет на новый год. Тогда многим стало бы ясно, почему у нас такие малые зарплаты и пенсии, почему с каждым днем живется все хуже.

*Евгений* **ТАВГЕНЬ**

СВАБОДНАЕ СЛОВА
Выдавец: Віцебскае аддзяленне ГА «Фонд імя Л. Сапегі»
Адрас рэдакцыі: Віцебск пр-т Чаряхоўскага, 12-17
Рэдактар: Х.Жэляпаў +©barsdesign2000
Распаўсюджваецца бясплатна